*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 42(150) ◈ 20 кастрычніка 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ УСТАНОЎЧЫ СХОД І ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ АБ'ЯДНАННЯ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ «ВЯСНА—94».*

13 КАСТРЫЧНІКА Ў МЕНСКУ ПАЧАЛІСЯ ДНІ НЯМЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ.

◆

*СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ САЛІГОРСК і сустрэўся з працоўнымі калектывамі горада.*

◆

У МЕНСКУ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛА ПАЛІТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ НЕКАМУНІСТЫЧНЫХ СІЛ. У ёй прынялі ўдзел больш за трыццаць арганізацый Беларусі. Былі абмеркаваны пытанні аб парламенцкіх выбарах не пазней вясны 1994 года, патрабаванне адстаўкі цяперашняга ўрада і стварэння новага кааліцыйнага ўрада і іншыя. Ініцыятарам правядзення канферэнцыі выступіў БНФ.

◆

*МІНІСТЭРСТВАМ ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАНА НОВАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ ПРЫХІЛЬНІКАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА БЕЛАРУСКАГА». Заснавальнікам стаў прамы нашчадак роду Сапегаў Аляксандр Багдановіч. Згуртаванне мае намер прапагандаваць прагрэсіўныя, гуманістычныя і гісторыка-культурныя традыцыі Вялікага княства Літоўскага.*

◆

САЎМІН БЕЛАРУСІ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ забараніць на пляцы Незалежнасці ў Менску правядзенне мітынгаў і іншых масавых мерапрыемстваў, акрамя вызначаных заканадаўствам. Іншага і нельга было прыдумаць перад чарговай сесіяй Вярхоўнага Савета, якая павінна пачацца 9 лістапада і якую ўжо даўно чакаюць людзі.

◆

*НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ ЖУРЫ КОНКУРСУ НА ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, якое адбылося 11 кастрычніка, абмеркаваны вынікі азнаямлення грамадскасці краіны з творамі-прэтэндэнтамі. На жаль, ні адзін з прапанаваных твораў пераканаўчай падтрымкі ў водгуках грамадскасці не атрымаў. У сувязі з гэтым Журы конкурсу рашыла прыняць за тэкстуальную аснову гімна вядомы верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь» і звярнулася да кампазітараў з прапановай напісаць музыку да названага твора.*

◆

З 1 СТУДЗЕНЯ 1994 ГОДА БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ КУПЛЯЦЬ ГАЗ ПА СУСВЕТНЫХ ЦЭНАХ.

*БЕЛАРУСЬ ЗВЯРНУЛАСЯ ДА ІНТЭРПОЛА з просьбай дапамагчы ёй адшукаць нацыянальную рэліквію — бясцэнны сярэдневяковы крыж Ефрасінні Полацкай, упрыгожаны каштоўнымі камянямі.*

*Канферэнцыі*

## РОДНАЯ МОВА — АСНОВА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ

24—25 верасня ў Брэсце адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Нацыянальная адукацыя і пытанні беларускамоўнага выкладання гуманітарных і прыродазнаўчых навук», праведзеная Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытутам.

Адразу адзначым, што гэта вельмі прадстаўнічая канферэнцыя была добра арганізавана. Разам з падрабязнай праграмай пасяджэнняў удзельнікі атрымалі тэматычны зборнік матэрыялаў канферэнцыі — тэзісы дакладаў, якія заслухоўваліся на секцыях (іх працавала тры). Усяго на секцыях выступіла 105 навукоўцаў, якія прыехалі ў Брэст амаль з усіх беларускіх ВНУ.

Тон канферэнцыі быў вызначаны пленарным пасяджэннем, якое ўступным словам адкрыў рэктар Брэсцкага педінстытута, прафесар В. Сцепановіч. З цікавасцю слухалі прысутныя і даклад намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама, народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь У. Русакевіча «Як дзейнічае закон аб мовах на Брэстчыне: зрухі і праблемы». Аўдыторыя, у прыватнасці, даведалася, што выканкамамі гарадскіх і раённых Саветаў вобласці распрацаваны і прыняты грунтоўныя мэтавыя праграмы «Спадчына», «Родная мова», «Крыніца памяці», якія паслядоўна выконваюцца.

Намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Я. Цумараў праінфармаваў канферэнцыю аб дзейнасці Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Ён падкрэсліў, што прыняты Закон аб мовах стварае добрую заканадаўчую базу для будаўніцтва нацыянальнай сярэдняй і вышэйшай школы, але прыкметныя поспехі ў згаданай галіне пакуль ёсць толькі ў пачатковых класах. «Задача ўсіх выкладчыкаў ВНУ — літаральна за два-тры гады перайсці на дзяржаўную мо-

Заканчэнне на с. 2.

***26 КАСТРЫЧНІКА Ў МЕНСКІМ ГАРАДСКІМ ПАЛАЦЫ МОЛАДЗІ І ШКОЛЬНІКАЎ АДБУДЗЕЦЦА** першае пасяджэнне Дзіцячага парламента Беларусі.*

✦✦

***ПРЫНЯТА УРАДАВАЯ ПАСТАНОВА** «Аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнай кінематаграфіі», якая прадугледжвае бюджэтнае фінансаванне шэрагу адпаведных праграм.*

## А бацькі рагаталі...

*(Роздум ля помніка)*

Былі Дзяды — дзень смутку і памяці тых, хто пайшоў ад нас назаўсёды ў вечнасць.

У гэты дзень я паклаў кветкі ў парку да агню славы, пакланіўся ўсім, хто аддаў жыццё ў барацьбе з фашызмам. Потым наведаў на цэнтральнай плошчы помнік «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі», што нядаўна ўзведзены намаганнямі гарвыканкама і Маладзечанскага аддзялення ТБМ. І таксама аздобіў яго краскамі.

Прысеў на лаўку каля помніка. Мяне апанаваў горкі одум пра шматпакутную гісторыю майго краю і народа. Думалася пра змаганне за незалежнасць нашага народа з крыжакамі, з бязлітаснымі наскокамі татарскай конніцы, войны з маскалямі і палякамі. Па маёй зямлі, нібы па прахадным двары, хадзілі войскі шведаў і французаў. Усе, каму карцела захапіць і заняволіць Беларусь. Але беларускі народ не скарыўся захопнікам. Амаль безабаронныя сяляне з косамі і сякерамі ішлі ў бітвы за волю і незалежнасць, баранілі сваю Радзіму. Прыгадаем, да прыкладу, паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага, якія былі жорстка задушаны.

Асабліва не шанцавала беларусам у апошняе стагоддзе. Колькі знішчылі нашых людзей гітлераўцы! Здавалася, што пасля перамогі над фашызмам для беларусаў, якія панеслі найбольшыя страты ў барацьбе з гітлераўцамі, будзе нейкая палёгка.

Дзе там! Зноў у наш край вярнуўся сталінска-берыеўскі генацыд, зноў пачалі знішчаць і рабаваць нашых людзей, катаваць іх у лагерах і турмах, заганяць у калгасы. І ўсё гэта рабілася пад кіраўніцтвам «руководящей и направляющей».

Мой одум раптам перапыніў вясёлы дзіцячы смех. Я падняў вочы і атарапеў: маленькі хлопчык зграбаў у ахапак кветкі, якія я толькі што паклаў каля каменя-помніка ахвярам генацыду.

— Понесу их дедушке Ленину! — шчабятаў ён.

Бацька і маці, якія былі разам з ім, нічога не сказалі малому. Яны рагаталі і разам з сынам пайшлі да помніка таму, у каго рукі па локці акрываўлены народнай крывёю.

Мікола КАПЫЛОВІЧ,
пісьменнік.
г. Маладзечна.




На здымку: Адкрыццё помніка ў Маладзечне «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі».

*Канферэнцыі*

# Родная мова — аснова нацыянальнай адукацыі

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

**ву рэспубліні»,— зазначыў прамоўца.**

**Эмацыянальным і вострым атрымалася выступленне старшыні менскай арганізацыі ТБМ, прафесара М. Савіцкага: «Нацыянальная мова як аснова развіцця айчыннай вышэйшай школы». «Наша інтэлігенцыя,— звярнуў увагу прафесар,— наша надзея, генератар Адраджэння і будучыні ў большай сваёй частцы аказалася нігілістычнай, інертнай, а ў нейкай частцы нават варожай да нацыянальнага Адраджэння... Сярод кіраўнікоў ВНУ крытычна нізкі працэнт беларусаў. Кіруючы корпус ВНУ, за невялікім выключэннем, не ўспрымае закон аб мовах».**

**Надзвычай змястоўным аказаўся даклад доктара філасофскіх навук, прафесара Брэсцкага педагагічнага інстытута С. Яцкевіча «Філасофская адукацыя і нацыянальнае Адраджэнне». Аўтар падкрэсліў, што ў нашай рэспубліцы маюцца якасныя філасофскія напрацоўкі. Так, толькі ў Беларускай энцыклапедыі змешчана 777 артыкулаў па філасофіі. Глыбокія філасофскія матэрыялы апошнім часам друкуе газета «Культура». Акрамя таго, выдадзены шэраг філасофскіх манаграфій. А курс гісторыі грамадска-палітычнай філасофскай беларускай думкі, на жаль, у большасці нашых ВНУ цяпер не вывучаецца зусім ці з'яўляецца не абавязковым, а выкладаецца ў якасці факультатыўнай дысцыпліны. А ў медыцынскіх інстытутах краіны філасофія ўвогуле зараз адсутнічае. Прамоўца лічыць, што менавіта філасофская адукацыя на роднай мове стварае і фарміруе нацыянальную накіраванасць навучання.**

**Што да работы секцыі на канферэнцыі, то там разглядаліся практычныя пытанні выкладання ў ВНУ розных дысцыплін па-беларуску, а таксама канцэпцыі пабудовы нацыянальнай школы. Акрамя беларускіх удзельнікаў пасяджэнняў, на секцыях зрабілі паведамленні нашы госці з Польшчы (прафесар Т. Вілох з Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай з г. Любліна і доктар гуманістычных навук, выкладчык Інстытута фізічнага выхавання з г. Бяла-Падляска). Ад Расіі ў рабоце канферэнцыі ўдзельнічаў доктар філасофскіх навук прафесар С. Някрасаў (Уральскі тэхнічны універсітэт, г. Екацярынбург).**

**У якасці запрошаных на пасяджэнні былі не толькі навукоўцы — выкладчыкі ВНУ. Аўтара гэтых радкоў пазнаёмілі з некалькімі настаўнікамі сярэдніх школ г. Брэста, якія ўжо пачалі выкладаць свае прадметы на дзяржаўнай мове рэспублікі. Так, у сярэдняй школе абласнога цэнтра геаграфію выкладае М. Барысюк (дачка пагранічніка, руская, якая нарадзілася ў Алма-Аце). Настаўнікі на канферэнцыі пачулі шмат карыснага для сябе.**

**На заключным пасяджэнні прысутныя прыйшлі да аднадушнай высновы, што родная мова ў школе і ВНУ з'яўляецца асновай нацыянальнай адукацыі, асновай выхавання нацыянальнай свядомасці.**

**Яшчэ раз падкрэслім, што канферэнцыя была вельмі прадстаўнічай, змястоўнай і плённай. На жаль, яе фактычна праігнараваў БДУ (удзельнічалі ўсяго некалькі спецыялістаў). А вось з медыцынскіх інстытутаў нашай рэспублікі не было зусім нікога. Варта адзначыць яшчэ адну прыкрасць. Для ўдзелу ў рабоце канферэнцыі ў Брэст прыехалі намеснік старшыні ТБМ Я. Цумараў, аргсакратар Таварыства В. Вільтоўскі і супрацоўнік газеты «Наша слова». Але ўсе спробы сустрэцца з кіраўніцтвам Брэсцкай арганізацыі ТБМ так і засталіся марнымі. А гэта азначае, што яна самаўхілілася ад сваіх надзённых практычных спраў ці ўвогуле не працуе.**

**Наш карэспандэнт.**

# Ізноў на Бацькаўшчыне з дабрачыннай дапамогай

*(Гутарка з а. Аляксандрам Надсанам)*



**— Ваш фургон,** айцец **Аляксандр, з дабрачыннай дапамогай з Вялікабрытаніі добра ведаюць у Беларусі. Дзякуючы Вам, атрымліваюць спецыяльныя лекі хворыя дзеці ў Менску, Магілёве, Гомелі. З кім непасрэдна Вы падтрымліваеце сувязі?**

— У Менску мы маем сувязь з дзіцячым фондам «Сакавік», які ўзначальвае Марыя Міцкевіч, у Магілёве — з фондам «Дзеці Чарнобыля». Найслабей у гэтым накірунку справы наладжаны ў Гомелі. Там цяпер няма аргкамітэта. Наша асноўная мэта — дапамагчы хворым дзецям у бальніцах. Па магчымасці мы стараемся не перадаваць лекі аргкамітэтам, а непасрэдна бальніцам. Дапамагаем не толькі анкалагічным аддзяленням, але і радзільным дамам, а таксама артапедычнаму аддзяленню Магілёўскай дзіцячай бальніцы. Не забываем таксама і пра дзіцячыя палікліннікі. Наш «Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі» арганізоўвае такія паездкі з дабрачыннай дапамогай прыблізна тры разы ў год. Прывозім толькі лекі і медыцынскае абсталяванне.

**— Калі Вы апошні раз былі ў Беларусі?**

— У канцы чэрвеня. На жаль, не змог прыняць удзел у рабоце Першага з'езда беларусаў свету, паколькі ў гэты час мусіў быць у Лондане і чакаць прыезду беларускіх дзяцей.

**— Відавочна, не ўпершыню Вы наладжваеце адпачынак беларускім дзецям у Вялікабрытаніі?**

— Трэці год мы запрашаем да сябе на адзін месяц дзяцей з Беларусі. Яны жывуць у англійскіх сем'ях. Робім гэта летам, паколькі не хочам адрываць дзяцей ад навукі. Якраз гэтым летам у нас адпачывала група дзяцей з Менска. Большасць з іх размаўляла па-беларуску.

**— Айцец Аляксандр, як вядома, у дадатак да абавязкаў Апостальскага візітара Беларусі Вы таксама працуеце дырэктарам Беларускай бібліятэкі-музея імя Францішка Скарыны ў Лондане. З якой мэтай створана гэта бібліятэка?**

— Беларуская бібліятэка-музей імя Францішка Скарыны была створана па ініцыятыве біскупа Чэслава Сіповіча і афіцыйна адчынена ў 1971 годзе. У тыя часы пра Беларусь нічога не ведалі на Захадзе. Мы, уніяцкія святары, паставілі за мэту сабраць як мага больш матэрыялу пра Беларусь. Збіралі рэдкія старыя кнігі. Звярталіся за фінансавай падтрымкай да беларускага грамадства за мяжой. Такім чынам, бібліятэка пачынала расці. Цяпер яна налічвае каля 15 тысяч экземпляраў. Гэта даволі шмат. Прадстаўлена добра перыёдыка беларускай эміграцыі першых пасляваенных гадоў. Налічваецца шмат архіўных матэрыялаў. Ёсць у нас рукапіс паэмы Янкі Купалы «Курган», а таксама архівы беларускіх пісьменнікаў і кампазітараў. У прыватнасці, Кулікова, Карповіча і інш. Наша бібліятэка з'яўляецца незалежнай установай, ніякай дзяржаўнай дапамогі не атрымлівае. Нам удалося сабраць нейкі капітал і цяпер ужо можна існаваць на гадавы працэнт гэтага капіталу. Кіруе бібліятэкай Рада, куды ўваходзяць беларускія і англійскія вучоныя-славісты.

**— Існуе яшчэ англа-беларускае Таварыства ў Лондане. Якая яго мэта?**

— Яно было створана з мэтай распаўсюджваць веды пра беларускую культуру ў англамоўным свеце. Выдае «Журнал беларусаведы». Дапамагае фінансаваць яго дзейнасць Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, якое ўзначальвае цяпер спадар Янка Міхалюк.

**— Ці падтрымліваеце Вы царкоўна-грамадскі часопіс «Голас часу» і як ставіцеся да гэтага выдання?**

— Асабіста я падтрымліваю ўсе рэлігійныя выданні. Але на матэрыялы, якія друкуюцца ў «Голасе часу», у мяне свой пункт погляду і, безумоўна, ёсць пэўныя разыходжанні.

**— Ці ёсць у Вас студэнты з Беларусі?**

— Так. Ёсць тры студэнты і сярод іх дзве дзяўчыны. На маю думку, жанчыны павінны заняць сваё месца ў царкве.

**— Вы часта наведваеце нас. Якія заўважаеце змены ў краіне?**

— Пра гэта можна гаварыць дужа шмат. Перш за ўсё, гэта змены ў поступе беларускасці. Беларуская мова ўжо не ёсць нешта дзіўнае, яна гучыць у транспарце, на ёй надпісы на вуліцах. Шмат беларскіх школ. Галоўнае, каб беларуская мова не была нечым незвычайным.

**Гутарыла Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Меркаванні*

# *Аднавіць адсечаную памяць*

**Ці было Вялікае княства Літоўскае беларускай дзяржвай?**

**Не. Ніколі, бо мы — цяперашнія «беларусы» — і ёсць Літва. Нам проста адсеклі памяць. І Масква скарыстала гэта, як і з украінцамі. Украіна, напрыклад, у сярэднявеччы была нічым іншым, як Руссю (русіны). А там вакол Масквы ды Уладзіміра была Масковія (маскоўцы, маскалі). Узяўшы на ўзбраенне ідэю падначалення ўсіх праваслаўных зямель, маскоўскія вялікія князі сталі звацца царамі «Всея Русі» (г. зн. усіх праваслаўных усходнеславянскіх зямель). Але з прычыны, што этнічная розніца паміж ліцвінам («беларусам») ды маскоўцам была відавочная, дык нас не выпадала адразу запісаць «у рускія» — накінулі назву «беларусцы». Маскоўскія ідэолагі лічылі, што рускія (праваслаўныя) землі — на ўсходзе ад дняпроўскай Бярэзіны, а на захадзе — Літва. Потым апетыты выраслі і «вотчиной дедов наших» (як казалі яны) сталіся землі ажно з Вільняй. Трэба зазначыць, што ў нашых продкаў таксама было ўяўленне, што ў краіне дзве гістарычныя вобласці-тэрыторыі: Літва на захадзе, а Русь на ўсходзе (граніца па рацэ Бярэзіне).**

**Мікола Ермаловіч дае тлумачэнне гэтаму наступнае: дняпроўскую Бярэзіну пераблыталі (расейцы, відаць, свядома) з нёманскай Бярэзінай.**

**Давайце паглядзім на карце: нёманская Бярэзіна аддзяляе, сапраўды, летапісную Літву (паміж Менскам і Навагрудкам) ад полацкіх (рускіх) уладанняў. Вось і атрымалася памылка ў свядомасці людзей, якіх, трэба сказаць, усюды безліч.**

## Дык што я прапаную?

1. Вярнуць нашай Бацькаўшчыне слаўны спрадвечны назоў Літва (ліцвін, ліцвінка).

Назва «Беларусь» абсалютна штучная, да таго ж прадстаўляе нас для недасведчаных іншазмцаў як «белых рускіх», што, па сутнасці, нам і хацелі навязаць расейскія захопнікі.

2. У дачыненні да паўночна-заходняй суседкі ўжываць гістарычны тэрмін — Жамойць (жамойцы). Назва Літва, як мы бачым, наша, сказаць Летува (летувіс) — язык зламаеш, дык варта ўзяць тое, як гаварылі нашы продкі.

3. Не карыстацца ў дачыненні да Расеі этнонімам «рускі». Гэта пераплятаецца з праваслаўем і не мае падмурку ў мове нашага народа. «Расея» і адпаведна «расеец», «расейка» альбо «расеянка». Украінцы кажуць «Росия», «росиянин», «росиянка». Калі «рускі», тады краіна павінна была б звацца «Русь». А «Русь» — гэта ўсе ўсходнеславянскія праваслаўныя землі, і калі сказаць «рускі», маючы на ўвазе этнонім, дык які-небудзь дзед з-пад Воршы ці Мсціслава і сапраўды падумае, молячыся ў «рускай» царкве, што ў яго продкі з-пад Волагды ці Мурама.

Варта звярнуцца ў міжнародны суд у Гаазе з іскам да Жамойціі за назву «Літва», трэба ва ўсіх газетах, ТБ, радыё тлумачыць, што ёсць што.

**Сяржук ВАСІЛЕНКА.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Падзяляючы пачуцці спадара Васіленкі, мусім, тым не менш, нагадаць выраз, што стаў крылатым: гістарычны цягнік адышоў і даволі-такі даўно. І тут ніякі аўтарытэтны суд, няхай сабе і міжнародны ў Гаазе, не дапаможа, а яшчэ і заблытае нашы адносіны з блізкімі суседзямі. Ды і ці варта адмаўляцца ад таго, што напрацаваў наш народ, атрымаўшы (можа, і не па сваёй волі нават) этнаназву «беларусы». Усё роўна гэта — не «рускія», і ці адмовімся мы ад купалаўскага «А хто там ідзе?» альбо вешчых слоў Багушэвіча? Ну, а «Літва» і сапраўды павінна адысці ў гісторыю, і мы гаворым цяпер — «Летува», а пра народ Расіі — расійцы і пра мову ягоную — расійская.**

Свет хіліцца да беларушчыны

# «Дракончык» вучыцца гаварыць па-беларуску

*(Гутарка з слухачом Міжнароднай школы беларусістыкі аспірантам з Токіо Рунасаке Курода)*

**— Скажыце, калі ласка, як кліча Вас маці?**

— Ру. Проста Ру.

**Можна, я буду Вас так называць?**

— О, безумоўна. Я ж сябе называю жартам — «дракончык».

**— Ру, адкажыце, калі ласка, дзе і калі, пры якой нагодзе Вы ўпершыню пачулі пра Беларусь?**

— Я нарадзіўся ў Токіо. Першы раз пачуў пра Беларусь, калі мне было сем ці восем гадоў. З маім бацькам, а ён быў эстрадным артыстам, спрачаўся яго сябра: бацька не ведаў розніцы паміж Беларуссю і Прусіяй. А пасля, ужо студэнтам, я вырашыў напісаць навуковую працу паводле старажытнага збору законаў «Русская правда», укладзенага Яраславам Мудрым, і напаткаў у бібліяграфіі прозвішча вучонага Я. Карскага. Тады і пазнаёміўся з Беларуссю.

**— Ці звязана Ваша, Ру, захапленне беларускай мовай і літаратурай з Вашымі навуковымі інтарэсамі? Калі звязана, дык якім чынам?**

— Звязана. Я вывучаў расійскую мову на працягу 10 гадоў. Калі мне было 14 гадоў, я пачаў вывучаць яе самастойна з дапамогай радыё, тэлеперадач, а пасля на завочных курсах — у японскага прафесара Накамуры, які сам калісь вучыўся ў Ліхачова. Я паступіў вучыцца ва ўніверсітэт Рыкю. Гэта пратэстанцкі прыватны ўніверсітэт у Токіо. Пасля я перайшоў у другі прыватны, але ўжо каталіцкі ўніверсітэт, які носіць назву «Софія». Там я тры гады вывучаў расійскую мову.

**— А ці маеце Вы якія-небудзь навуковыя працы па беларусістыцы?**

— Я надрукаваў у часопісе «Вакно» артыкул пра Францішка Скарыну, карыстаўся рознымі крыніцамі — Энцыклапедычным слоўнікам, кнігамі пра першадрукароў. Гэта быў мой першы артыкул пра Беларусь. Але цяпер усе думаюць, што я спецыяліст па Беларусі. Нават з энцыклапедыі званілі, пыталіся, як правільна пісаць: Менск ці Мінск. Але першы раз пачуў беларускую мову толькі тут, у Менску. Яна мне вельмі спадабалася: мілагучная, сакавітая, шчыраўзнёслая, прыгожая мова. Размаўляць па-беларуску мне пакуль што цяжка, але разумею амаль усё, прыкладам, на лекцыях я ўсё разумею. Я ж вучыў трохі і польскую мову, і чэшскую. Мая жонка Куміка вывучае чэшскую мову.

**— З кім з беларускіх вучоных Вы хацелі мець большыя кантакты, лекцыі якіх прафесараў Вам больш за ўсё спадабаліся?**

— Яшчэ ў Японіі я чытаў працы прафесара Супруна А. Я., хацеў бы мець з ім кансультацыі. Зацікавілі мяне лекцыі А. І. Грыцкевіча, Л. М. Лыча, А. А. Лойкі. Хацеў бы ведаць беларускую літаратуру, пра якую так захоплена Вы нам расказвалі. Я буду шмат чытаць беларускай літаратуры.

**— Што Вы мяркуеце вывучаць?**

— Я хацеў бы заняцца культурай Беларусі, літаратурай. Хачу перакладаць Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча. Цяпер чытаю «Дзікае паляванне караля Стаха». Калісьці я глядзеў фільм паводле гэтай аповесці, ён паспрыяў маёй цікаўнасці да Беларусі.

**— А якія перспектывы адкрывае для Вас асабіста захапленне беларускай мовай?**

— Па-першае, я буду першы студэнт-беларусіст, які цікавіцца і разумее беларускую мову, ведае крыху яе гісторыю і гісторыю краю. Я асаблівa і найперш хацеў бы ведаць мовы невялікіх народаў, дапамагаць прапагандаваць гэтую мову ў свеце, сярод іншых народаў. Па-другое, калі гэта магчыма, я хацеў бы прыехаць займацца тут, ва ўніверсітэце, у аспірантуры. З веданнем беларускай мовы мне лягчэй будзе знайсці працу, бо сувязі паміж нашымі народамі, я думаю, будуць пашырацца.

**— Ці спадабаўся Вам наш Менск?**

— Вельмі. Па-мойму, ваша сталіца — самы спакойны горад. Даўно я не блукаў так спакойна па вуліцах. На жаль, мала захавалася ў Менску старажытных помнікаў, будынкаў.

**— А ў кнігарні заходзілі?**

— Так, і знайшоў там шмат добрых кніг, якія мяне цікавяць і якіх я не мог, вядома, купіць у Японіі. А цікавяць мяне кнігі па гісторыі, культуры, архітэктуры Беларусі, кнігі па беларускім мовазнаўстве.

**— Ці прыедзеце яшчэ на курсы Міжнароднай школы беларусістыкі?**

— Абавязкова прыеду. Хачу ўдзельнічаць і ў навуковай канферэнцыі. Хутка будзе ў Менску японскае пасольства — не будзе праблем.

**— Што Вы любіце, Ру, акрамя свайго захаплення мовамі малых і вялікіх народаў свету?**

— Люблю танцаваць, спяваць. Мне падабаецца Ваша беларуская фальклорная песня, танцы, абрады. Я хацеў бы гэтым займацца сур'ёзна.

**— Дзякую. Спору ў працы!**

*Гутарыў Уладзімір* НАВУМОВІЧ.

---

Руплівцы

# «За сваё роднае трэба змагацца...»



**Яе палкае выступленне ў абарону роднай мовы на справаздачна-выбарчай канферэнцыі Маладзечанскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны запамяталася ўсім. Гаварыла Ніна Сцяпанаўна з горыччу і болем пра тое, што ў горадзе, як і скрозь па рэспубліцы, мясцовыя чыноўнікі абыякава ставяцца да роднай мовы.**

**Пасля канферэнцыі мы разам выйшлі з бібліятэкі. Ніна Сцяпанаўна яшчэ не магла астыць пасля выступлення. Яна нібыта працягвала яго на вуліцы:**

**— Такога заняпаду мовы, такой абыякавасці да яе пасля вайны не было. Тады людзі гаварылі больш пасвойму, па-нашаму. А расійскую мову называлі «гарадской». Нават кпілі з тых, хто пачынаў крыўляцца «парюску». Ды і ў школах усе прадметы, акрамя рускай мовы і літаратуры, выкладаліся на роднай мове. Я вучылася ў беларускай сярэдняй школе ў Шаркоўшчыне. Маімі любімымі прадметамі былі родная мова і літаратура. Не паспела я закончыць Менскі медінстытут, як маю родную школу ў Шаркоўшчыне перавялі на расійскую мову. «Верхнія» начальнікі пачалі рабіць, каб люд анямеў, не ведаў нічога роднага, выракся свайго. У выніку цяпер рэдка ў горадзе пачуеш смачнае і мілагучнае беларускае слова. Не, гэтага цярпець больш нельга! За сваё роднае трэба моцна змагацца! Бо адступаць няма куды. Ззаду — бяспамяцтва і поўнае анямення.**

**Ніна Сцяпанаўна Сычова мае амаль саракагадовы працоўны стаж. Яна акуліст гарадской дзіцячай палiклінікі. Стварыла сярод маладзечанскіх медыкаў суполку ТБМ, актыўна прапагандуе там роднае слова.**

**Ніна Сцяпанаўна змалку палюбіла роднае слова, не ўяўляе свайго жыцця без яго, без народнай беларускай песні. Яшчэ са студэнцкіх часоў актыўна ўдзельнічае ў мастацкай самадзейнасці і да цяперашняга часу не пакідае сцэну, прапагандуе песенную спадчыну нашага народа.**

**— Бо музыка і слова цесна звязаны паміж сабою, — кажа яна. — І слова ў народнай мелодыі набывае яшчэ большае харастcovo, мілагучнасць. А песенны скарб нашага народа, бадай, самы багаты ў свеце. Як тут утрымацца, каб не засяроваць што-небудзь нашае, роднае. Ды я ўпэўнена, што прапагандаваць беларускае слова трэба найперш праз цудоўныя нашы песні... Слова з мелодыяй лепш і бліжэй даходзіць да сэрцаў.**

**Чалавек рознабаковых здольнасцей, яна не толькі прапагандуе ўсё беларускае, але яшчэ і паспяхова займаецца навуковай работай у сваёй медыцынскай галіне. Часта ездзіць на навуковыя канферэнцыі, выступае з дакладамі. Яе навуковыя адкрыцці шырока выкарыстоўваюцца ў дзіцячай акулістыцы, у лекарскай практыцы дзіцячых медыцынскіх устаноў рэспублікі.**

**Ніна Сцяпанаўна Сычова сустрэла сваё шасцідзесяцігоддзе. Пажадаем ёй здароўя і далейшай гарачай няўрымслівасці ў прапагандзе роднага слова!**

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

г. Маладзечна.

---

# Вострыя вуглы «круглага стала»

**Міністэрства інфармацыі 6 кастрычніка наладзіла «круглы стол» па праблемах выдання слоўнікаў. Сабралася шмат навукоўцаў, выкладчыкаў, супрацоўнікаў выдавецтваў і журналістаў: ёсць што абмеркаваць. Спадар А. Бутэвіч, міністр, сказаў пра цяжкасці выдання слоўнікаў ды заклікаў прысутных сумесна выпрацаваць выдавецкую палітыку. У іншых выступленнях было пададзена шмат слушных прапаноў. Акрэсліліся і галоўныя кірункі дзейнасці.**

**Перш неабходна стварыць тэрміналагічныя слоўнікі па школьных прадметах. Яны могуць быць кароткімі, і выдаць іх трэба як мага хутчэй. Для падрыхтоўкі грунтоўных неабходна супрацоўніцтва спецыялістаў пэўнай галіны навукі і мовазнаўцаў. Удзельнікі «круглага стала» абмеркавалі некалькі шляхоў. Адзін з іх — ісці ад тэкстаў. Але дзе ўзяць іх? Лявон Баршчэўскі, прыкладам, сказаў, што яны ў Беларускім гуманітарным ліцэі падрыхтавалі хрэстаматыю па філасофіі. Ён жа згадаў пра навуковы подзвіг Яна Пятроўскага, аўтара перакладнога грэцка-беларускага слоўніка. Дарэчы, такі метад, калі ствараецца тэрміналогія адначасова з перакладам, выкарыстоўваюць шмат якія навукоўцы і выкладчыкі.**

**Прыклад больш плённага метаду падала дацэнт Менскага радыётэхнічнага інстытута, кандыдат фізіка-матэматычных навук Людміла Шлома. Яна распавяла пра вопыт сваіх калег з Дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Прысутныя ўбачылі вынік іх працы — выпушчаны выдавецтвам «Навука і тэхніка» «Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ» калектыву аўтараў: Тамары Сухой, Раісы Еўдакіменка, Васіля Траццякевіча, Ніны Гудзень. На жаль, гэта пакуль што адзіны добры прыклад. Дацэнт гэтай акадэміі М. Анцыповіч паведаміў пра Тлумачальны расійска-беларускі слоўнік па філасофіі, які рыхтуецца да выдання. Ды калі ён звярнуўся ў выдавецтва, то там яму растлумачылі, які гэта будзе слоўнік — на «русском языке». Прыкладам: *материя — матэрыял,* а за гэтым — тлумачэнне тэрміна на расійскай мове. Такі ж самы слоўнік па псіхалогіі. На сваё пытанне, ці можа дзяржаўнае выдавецтва выдаваць такія слоўнікі, Анцыповіч не атрымаў адказу. Яго трывогу падзяляе і Ніл Гілевіч, які сказаў, што пад выглядам расійска-беларускіх слоўнікаў і даведнікаў выдаюцца расійскія. Шмат іх выдадзена, а беларускім не хапае паперы.**

**Ад выступаючых прасілі канкрэтных прапаноў. Больш за 20 удзельнікаў «круглага стала» падзяліліся сваім вопытам. У Інстытуце замежных моў дзейнічае Навукова-метадычны цэнтр, дзе падрыхтавана 6 слоўнікаў, тры з якіх ужо ў выдавецтве. Сваю канцэпцыю выклаў спадар Тамілін з кафедры метралогіі і стандартызацыі Політэхнічнай акадэміі, які ўжо тры гады працуе над слоўнікам па метралогіі, паліметрыі і стандартызацыі. Ён катэгарычна адмаўляе калькаванне тэрмінаў і прапанаваў у словатворчасці апірацца на паняцце, а не на слова.**

**Удзельнікі «круглага стала» пагадзіліся, што ў дзяржаўнай справе выдання слоўнікаў павінна быць дзяржаўная палітыка, што неабходна склікаць навуковую канферэнцыю па тэрмінатворчасці.**

**Падводзячы вынікі «круглага стала», спадар А. Бутэвіч сказаў, што неабходна стварыць слоўнікавую камісію на грамадскіх пачатках. Яна павінна выбраць, што трэба друкаваць у першую чаргу, дапамагчы выявіць аўтараў, што маюць вопыт ці ўжо падрыхтаваныя слоўнікі. На прапанову адгукнулася больш за дзесяць удзельнікаў.**

З. СІЦЬКО.

---

WIS

## Не высоўвайся

*У Жабінкаўскім раёне Берасцейскай вобласці на пазачарговым пасяджэнні выканкама было прынята «гістарычнае» рашэнне аб канфіскацыі зямлі 13,2 га ў Андрэя Карпенкі — аднаго з нешматлікіх фермераў. І гэта ўсяго праз паўтара года пасля прыняцця гэтым жа выканкамам рашэння аб адводзе зямлі фермеру ў пажыццёвае і спадчыннае ўладанне. Прычынай карнай меры выканкам называе «не выкарыстанне зямлі па мэтаваму прызначэнню». Фермер жа перакананы, што яго проста вырашылі «пасадзіць на месца». Справа ў тым, што сп. Карпенка з'яўляецца выдаўцом нядаўна зарэгістраванай газеты «Фермерскія навіны». Што да зямлі, то любому фермеру закон дае магчымасць працягам трох першых гадоў яе не выкарыстоўваць па прызначэнні.* Паўлюк ЛОСЬ.

## Выбары не мэтазгодны

Сесія Драгічынскага райсавета згадзілася з прапановай прэзідыума райсавета і зацвердзіла пастанову «Аб немэтазгоднасці правядзення выбараў у раённы Савет па паўночнай выбарчай акрузе № 2». Людзі не ідуць на выбары, якія шмат разоў спрабуюць правесці раённыя ўлады. У выніку ніводны дэпутат не набірае патрэбнай колькасці галасоў.

# «НАЛЕЖАЎ ДА ПІЯНЕРАЎ БЕЛАРУСКАГА РУХУ»

*Імя Адварды (Эдварда) Будзькі ўжо згадвалася ў нашых сёлетніх публікацыях. Дзеяч «нашанійскай» пары, ён усё жыццё заставаўся патрыётам, асветнікам, змагаром за беларускую справу. Памёр у 1958 г. на амерыканскай зямлі. Гэта сумная падзея падштурхнула другога вядомага беларуса на эміграцыі, доктара В. Жук-Грышкевіча, выступіць перад суайчыннікамі ў Таронта (Канада) з успамінамі пра свайго сардэчнага сябра і земляка. Дакладчык расказаў пра найбольш вядомы для сябе перыяд у жыцці А. Будзькі — Будслаўскі. Аповяд гэты быў затым апублікаваны ў «Бацькаўшчыне» (1958, № 44 (430), Таронта) за подпісам «Прысутны». Прапануем тэкст, падрыхтаваны на аснове згаданай публікацыі. Такім чынам, забытыя імёны вяртаюцца да нас.*



Эдвард Будзько, 3-ці сакратар Т-ва „Бацькаўшчына", 2-гі кіраўнік Дзяржаўных Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў.

Адварды Будзька належаў да піянераў беларускага руху. Нарадзіўся ў 1882 г. у Будславе Вілейскага павета. Быў равеснікам Янкі Купалы і Якуба Коласа, з якімі супрацоўнічаў у «Нашай Ніве», але быў старэйшым «нашаніўцам» і належаў да старэйшых беларускіх дзеячаў. Быў актыўным беларусам перад 1905 годам, ужо ў 1901 г. арганізаваў беларускую калонію ў Рызе.

Жыццёвы шлях Будзькі быў нялёгкі, хоць гэтага па ім не было відаць: заўсёды жывы і рухлівы, энергічны, з новымі ідэямі і смелымі праектамі і планамі, ён ніколі не скардзіўся на свой лёс, а заўсёды шукаў чагось новага, заўсёды ішоў наперад. З пачатковай асветай пакінуў родны Будслаў, пайшоў у шырокі свет у ранняй маладосці. І не згубіўся. Не толькі здабыў асвету самаадукацыяй і знайшоў сабе месца ў жыцці, але выцягнуў у людзі і спрычыніўся да адукацыі шматлікіх беларусаў, каб працавалі, як ён сам для свайго народа. Ягоная ж дзейнасць у беларускім жыцці была такая разнастайная, што, здаецца, няма дзялянкі, да якой ён не прылажыў свае рукі. Ён — грамадскі дзеяч і арганізатар, пашыральнік беларускай свядомасці, кніжкі і газеты, публіцыст, рэдактар-выдавец беларускай газеты «Дзянніца» ў Петраградзе ў 1916 г., а ў 1920 — «Беларускай Думкі» ў Вільні. Ён займаўся рознымі сялянскімі і гаспадарчымі справамі, арганізоўваў кааператывы і выбіўся на аднаго з найлепшых кааператараў на Беларусі. Пазней кааперацыі аддаваў найбольш увагі, працаваў на гэтай дзялянцы да вайны 1939 г. У кааперaтывы ён нёс не толькі фаховую параду, але і беларускую кніжку і газету — нацыянальную свядомасць.

Калі ў часе Першай сусветнай вайны масы беларусаў эвакуіруюцца ў Расею і рассыпаюцца па яе абшары, А. Будзька адным з першых ідзе ім на спатканне з маральнай і матэрыяльнай дапамогай, закладаючы «Беларускі камітэт пацярпеўшым ад вайны». Дзякуючы гэтаму камітэту, беларусы ў Расеі трымаюць сувязь з сваім нацыянальным рухам і бяруць удзел у важных падзеях у часе расейскай рэвалюцыі і пазней.

Дзейнасць А. Будзькі не абмяжоўваецца адной мясцовасцю, што найбольш праяўляецца ў Вільні, Рызе, Петраградзе і Будславе, дзе ён найбольш прабываў, але прамяніе і ў іншых кутках Беларусі і за еннымі межамі — ці то ў Менску і меншых беларускіх асяроддзях, ці то ў Берліне, Коўне, Дзвінску і на эміграцыі. Таму імя А. Будзькі ўсюды было вядомым і папулярным. Ён адчуваў сваёй душой усе патрэбы беларускага руху. З'яўляўся там, дзе гэтыя патрэбы выступалі найвастрэй. Браўся за тое, што ў дадзеную хвіліну было найбольш неабходным, найбольш пякучым. І нішто, здавалася б, не магло стрымаць ягонай дзейнасці. Калі ў 1921 г. палякі выкінулі яго ў ліку 33 беларусаў і летувісаў з Вільні ў Летуву, ён праяўляе сваю беларускую дзейнасць спачатку ў Коўне, а пазней у Дзвінску.

А. Будзька пакінуў вялікі след у змаганні за беларускую школу. Браў удзел у арганізацыі беларускіх пачатковых школ, быў кіраўніком беларускіх настаўніцкіх курсаў у Дзвінску, але найбольш праявіў сябе на гэтай дзялянцы пры арганізацыі Будслаўскай беларускай гімназіі. Было гэта ў 1917—1919 гг.

Беларуская нацыянальная свядомасць у Будславе і аколіцах, дзякуючы А. Будзьку, даўно ўжо запусціла глыбокія карані. Нядаўняя рэвалюцыя стварыла спрыяльныя абставіны для гэтага, аднак патрэбна была ініцыятыва, актыўнасць і ахвярнасць, каб арганізаваць беларускае школьніцтва. Але А. Будзька не задавальняецца пачатковай школай. Ён адразу сягае па сярэднюю. Калі ўзяць пад увагу, што Будслаў — гэта невялікае мястэчка, паложанае далёка ад больших мястаў, дык план заснавання тут беларускай гімназіі выглядаў занадта смелым. У Будславе не было ні адпаведнага будынка для гімназіі, ні вучыцялёў, ані сродкаў на абсталяванне, на кнігі ды школьныя прылады. Праўда, Будслаў з ваколіцамі меў каталіцкае насельніцтва, якое не захапіла русіфікацыя. Нацыянальная свядомасць і цяга да асветы былі значнымі, аднак нікому ў галаву не прыйшло, што трэба пачынаць адразу з гімназіі; людзі не разумелі патрэбы і значэння такой школы, ды некаторыя нават слова «гімназія» блыталі са словам «гімнастыка». Таму шмат якія будслаўцы гаварылі, што няма тут падрыхтаванага грунту пад гімназію. Гэта была восень 1917 г., ад Лютаўскай рэвалюцыі прайшло толькі некалькі месяцаў, якія не маглі рассеяць цемнату і беспрасвецце, створанае расейскай рэакцыйнай палітыкай за амаль паўтара стагоддзя. Аднак А. Будзька не пабаяўся ўсіх гэтых цяжкасцяў, бо ён ведаў, чаго хацеў, чаму ў Будславе трэба адкрыць беларускую гімназію. Ён знаў, што беларусам патрэбна інтэлігенцыя, якой тады было так мала,— пры тым інтэлігенцыя сялянская, з нетраў народа. Аб сярэдніх школах у большых мястэчках было каму паклапаціцца, але гэтыя школы для сялянства былі маладаступныя. Таму зусім слушна ён уважаў, што трэба тварыць беларускія сярэднія школы для сялянства ў самай гушчы вясковых асяроддзяў. Будслаў жа быў ідэальным месцам для гэтай мэты.

Наш слаўны дзеяч умеў выбіраць адпаведныя моманты дзеля правядзення сваіх смелых планаў,— а восень 1917 года была адпаведным часам для арганізацыі беларускіх школ. Рэвалюцыя была яшчэ ў руху, Керанскі тросся, адбываўся бальшавіцкі пераварот, ды і немцы былі недалёка. У сталіцы Беларусі ішла гарачая арганізацыйная работа, крышталізавалася ідэя незалежнасці, але не было яшчэ рашучасці замацаваць сваю беларускую ўладу. Намінальна прызнавалася па інерцыі расейская ўлада, якая была тады ў зменнай стадыі і асаблівай эфектыўнасці на Беларусі не праяўляла. Аднак сітуацыя магла змяніцца ці то з узмацненнем той ці іншай расейскай улады, ці то з прыходам немцаў. Таму трэба было лавіць момант. І вучыцялёў цяпер было знайсці лягчэй, бо з галодных гарадоў уся інтэлігенцыя ехала на заможную хлебам вёску. Цяжка было проціставіцца гэтым аргументам, яны пераканалі і тых, што не верылі ў магчымасць заснавання гімназіі, і тых, што не разумелі патрэбы яе. Выявілася гэта на агульным сходзе бацькоў у Будславе, якіх А. Будзька пераканаў у патрэбе арганізацыі беларускай гімназіі ды збудзіў іх энтузіязм да дзеяння. Ён умеў гаварыць з сялянамі, умеў пераконваць іх, а найважнейшае — меў іх давер, быў сваім чалавекам і не аднаму памог у нягодзе...

Пасля сходу работа загула. Быў створаны адмысловы камітэт, які пачаў збіраць грошы на гімназію, рыхтаваць класы ў былым прыхадской школе і будынку валасці ды ўпарадкоўваць абсталяванне. А. Будзька заняўся шуканнем вучыцялёў. На дырэктара быў запрошаны вядомы археолаг Васілевіч, які скончыў два факультэты ў Маскве і паходзіў з вёскі Пузыры каля Будслава. Была запрошана група вучыцялёў, у якой была родная сястра А. Будзькі і шмат каму вядомы на эміграцыі Мікола Шыла. Падручнікі і школьныя прылады былі прывезены з Менска. А. Будзька бываў тады часта ў беларускай сталіцы. І хоць аддаваў свае сілы на арганізацыю беларускай гімназіі ў Будславе — не занядбоўваў і буйнага тады арганізацыйнага жыцця ў Менску. Браў удзелва ўсіх важнейшых беларускіх канферэнцыях і з'ездах, уключна з Першым Усебеларускім Кангрэсам.

Камітэт вырашыў на пачатку адчыніць тры гімназічныя класы і два пачатковыя. Заняткі мелі распачацца па новым 1918 годзе. Распачаліся яны дзесь у сярэдзіне студзеня таго ж года.

У сакавіку 1918 года прыйшлі немцы. Яны не рабілі ніякіх перашкод у працы гімназіі. Нямецкая акупацыя дала магчымасць навязаць перарваную фронтам з 1916 г. сувязь з Вільняй. Віленскае беларускае асяроддзе дало Будслаўскай гімназіі маральнае падтрыманне і свае уплывы. Наогул перспектывы для гімназіі былі вельмі добрыя. Трэба было думаць аб далейшым этапе, а перадусім аб адпаведным будынку для гімназіі. Як фаховая сіла дзеля гэтага быў запрошаны вядомы беларускі архітэктар, інжынер Дубакоўскі. Ён прыехаў у Будслаў і апрацаваў план двухпавярховага драўлянага будынка для гімназіі. Будслаўскія сяляне аддалі пад пляц для яе адрэзкі шнуроў, што даходзілі да вуліцы, на якой мела знаходзіцца гімназія. Агульны сход бацькоў пастанавіў, каб бацькі, апрача аплаты за навуку, адпрацавалі па два дні ад кожнага вучня пры будоўлі гімназіі. І тут работа загула...

Новы 1918/19 школьны год распачаўся нармальна. Навука трывала дзевяць з палавінай месяцаў. Наплыў вучняў быў такі вялікі, што не было дзе іх змясціць. Ва ўсіх чыннных класах налічвалася па-над 350 вучняў. Сапраўды тут створана была кузня беларускай сялянскай інтэлігенцыі.

Восенню паказаліся бальшавікі. Яны былі тады яшчэ ў стадыі арганізацыі і не зрабілі вялікіх змен у жыцці Будслава. Загадалі толькі, каб гімназія фармальна называлася «трудовой школой». Тым часам будынак гімназіі хутка вырастаў. Былі ўжо выведзены сцены першага паверха. Тут паявіўся надзвычайны высілак будслаўскага сялянства ды арганізацыйныя здольнасці гімназічнага камітэта. Зразумела, што за ўсім гэтым як кіраўнік і інспектар стаяў А. Будзька.

Лета 1919 г. прынесла благія навіны. Урад БНР і ягоны апарат акупанты-бальшавікі і палякі змусілі эміграваць ды пачалі вайну між сабой за жывое цела Беларусі. Будслаў апынуўся ў засягу ваенных аперацый і трывожна глядзеў на будучыню. З усяго відаць было, што прыйдзецца паспытаць новай акупацыі — польскай, ад якой беларусы нічога добрага не спадзяваліся. Ведамым было, што з палякамі вернуцца ўсе мясцовыя паны і паўпанкі, што так моцна даліся сялянству ў знакі ў часе нямецкай акупацыі.

Палякі прыйшлі пад восень. Адчуў іх найбалючай Будслаў. Будслаўская беларуская гімназія была зачынена. Дошка з гэтым надпісам была знята са школьнага будынка за пару тыдняў перад пачаткам школьнага года.

Будслаўская беларуская гімназія праіснавала паўтара года, але за гэты час у існуючых класах была прароблена праграма двух гадоў. Пасля закрыцця гімназіі вучні разышліся па сваіх хатах з жалем на чужую ўладу, што зачыніла ім дарогу да асветы. Але панеслі з сабою беларускую кніжку, беларускую песню, беларускую нацыянальную ідэю. Шматлікія з іх, засмакаваўшы духоўнай стравы ў гімназіі, не маглі ўжо без яе абыходзіцца, яны пайшлі ў шырокі свет, у пагоні за асветай і здабылі яе. І тут не аднаму дапамог А. Будзька. Да вынікаў уплыву коратка існаваўшай Будслаўскай беларускай гімназіі трэба залічыць і той факт, што пазней пад Польшчай аж да 1939 года Будслаў меў вялікую колькасць моладзі, што вучылася ў розных школах — сярэдніх і вышэйшых.

Варта кінуць вокам і на пазашкольнае жыццё ў Будславе ў часе існавання гімназіі. Як і трэба было спадзявацца, гімназія зрабіла ўплыў на ўсё насельніцтва, а перадусім на моладзь у пазашкольным веку. Шматлікія дзяцюкі і дзяўчаты вучыліся на агульнаасветных курсах пры гімназіі. Гімназія ладзіла беларускія пастаноўкі, канцэрты і вечарыны. Вучні выдавалі на сапіраграфе свой часопіс «Светач». Дырэктар і вучыцялі чыталі публічныя лекцыі для усяго насельніцтва. Моладзь пазашкольнага веку арганізавала свой клуб «Вяночак», бібліятэку, хор, струнны аркестр і драматычны гурток. Культурнае жыццё ў Будславе біла поўнай крыніцай. Кожную нядзелю ладзіўся беларускі спектакль ці канцэрт. У часе ж прынагодных збораў сялянства, як кірмашы і фэсты, лучыліся сілы гімназіі. Так было, напрыклад, на вядомым будслаўскім фэсце 3 ліпеня 1918 г., калі з'ехалася да 10 тыс. людзей. Вучні прадавалі на рынку беларускія кніжкі. Пасля імшы дырэктар гімназіі прачытаў для народа публічную лекцыю з археалогіі. Надвечар драматычны гурток даў беларускую пастаноўку, а вечарам адбыўся канцэрт з удзелам струннага аркестра і хора, які закончыўся танцамі. Ураджанні з усяго бачанага і чутага на тадышнім будслаўскім фэсце доўга каменціравaліся па ўсім павеце і нават у такіх глухіх вёсках, дзе раней нічога не было ведама пра беларускі рух.

Так будавалася і расла беларуская справа ў Будславе і ваколіцах. На працягу двух гадоў тут адбывалася цэлая рэвалюцыя, пачынальнікам і кіраўніком якой быў А. Будзька. Цешыліся будслаўцы з сваёй працы, а разам з імі цешыўся іх духоўны правадыр, бачачы ўраджай з таго, што сеяў на працягу 20 год. Успамінаючы, што рабілася тады ў Будславе,— мімавольна паўстае пытанне: што сталася б з Беларуссю, калі б гэтую рэвалюцыю не здушвалі акупанты з Усходу і Захаду, калі б такія людзі, як А. Будзька, маглі праводзіць свае смелыя планы без ніякіх перашкод па ўсім беларускім абшары?

Заканчэнне на с. 7.

*Мама, пачытай!*

**Уладзімір ПАУЛАУ**

# Загадкі

* * *

**Далікатны мае пах,**
**І пялёсткі ў завітках.**
**Ды калючая задужа.**
**Што за кветка гэта?..**
**(Ружа.)**



* * *

**Чатыры рагі.**
**Ніводнай нагі.**
**Шэпча на вушка**
**Казкі...**
**(Падушка.)**



* * *

**Грыва — што ў каня падчас.**
**На канцы хваста кутас.**
**Як раўне, аж стыне кроў.**
**Афрыканскі цар звяроў.**
**(Леў).**



* * *

**Я сялюся ў кожнай хаце.**
**Сцерагу спакой, багацце.**
**З барадой, хоць сам з аплік,**
**А завуся...**
**(Дамавік.)**



* * *

**Хто апоўначы ў бары**
**Запаліў два ліхтары,**
**Плакаў там і рагатаў,**
**Ажно сам жахацца стаў?!**
**(Філін.)**



* * *

**Калі ў полі дзень астыне,**
**Едзе ў двор яна на спіне.**
**І скрыгоча і свіркоча,**
**Бы ўкусіць кагосьці хоча.**
**(Барана.)**

* * *

**Хоць жняя з яе малая**
**І яна сярпа не мае,**
**Але кліча ўсіх з двара:**
**— Жаць пара ды жаць пара!**
**(Перапёлка.)**

*Імпрэзы*

# «Любіць Радзіму, шанаваць роднае слова»

23 верасня работнікі Менскага аўтазавода адзначалі сваё прафесійнае свята — Дзень машынабудаўніка. Чацвёртым пунктам праграмы вечара адпачынку ў Палацы культуры МАЗа пасля віншавальнага слова кіраўнікоў аб'яднання, канцэрта і дыскатэкі адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Любіць Радзіму, шанаваць роднае слова», наладжанай клубам «Спадчына».

На адкрыцці экспазіцыі выступілі намеснік генеральнага дырэктара завода В. Жыгала, старшыня прафкама М. Лавіцкі, гісторык, прафесар А. Грыцкевіч, супрацоўнік выдавецтва «Народная асвета» Я. Гучок ды іншыя. Найбольшую ўвагу прыцягнула выступленне народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Выстава,— адзначыў ён,— нягледзячы на сціпласць, дазволіць наведвальнікам атрымаць інфармацыю, якой у пачатковых класах школы іх пазбавіла заганная сістэма адукацыі, і на ўласныя вочы ўбачыць творы, на якіх прадстаўлены «апосталы» беларускага Адраджэння.

Катэгарычнае адмаўленне Быкавым спробаў далучэння і яго да ліку «апосталаў» Адраджэння агульнавядомае. Таму можна меркаваць, што пісьменнік папросту не паспеў агледзець выставу цалкам, бо сярод паказаных твораў быў і яго партрэт. Больш грунтоўна з творамі мастацтва маглі азнаёміцца аўтазаводцы. Людзі, большасць з якіх, магчыма, упершыню пачулі імёны дзеячаў культуры і нацыянальна-вызваленчага руху краіны, сярод выяваў «апосталаў» маглі ўбачыць і твары кіраўніка клуба «Спадчына», уладальніка ўсіх экспанатаў і арганізатара выставы Анатоля Белага ды яго дачкі Святланы. У гэтым, відаць, не было б нічога дзіўнага, каб не эфект размяшчэння. Выява першага, аздобленая «Пагоняй» і высокапатрыятычным лозунгам, мясцілася недзе паміж партрэтамі Скарыны і Каліноўскага. Постаць Святланы Белай завяршала серыю яшчэ з чатырох партрэтаў, а папярэднічалі ёй Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш ды Фабіян Шантыр.

Тым не менш, выстава адбылася. Пстрыкалі фотаапараты, прысутныя ветліва пляскалі ў далоні кожнаму з прамоўцаў, а потым з цікаўнасцю хадзілі ўздоўж стэндаў. Я ўзгадаў словы, пачутыя раней: «Адміністрацыю завода хвалююць не толькі праблемы вытворчасці. Мы знаходзім час, каб пацікавіцца мовай і культурай». Выдатна!

Выстава агітавала аўтазаводцаў любіць Радзіму і шанаваць сваю мову на працягу амаль тыдня. Паводле слоў яе арганізатара, наступныя ўрокі любові да Беларусі адбудуцца ў будынку Вярхоўнага Савета рэспублікі, а пазней, з падтрымкай Міністэрства культуры, у розных гарадах краін Балтыі.

Уладзімір ПАНАДА.



*Чыталі?*

# «Пралеска» — № 6

Са спазненнем выйшаў шосты нумар часопіса «Пралеска». Ён прысвечаны міжнароднаму дню абароны дзяцей, які ў нашай краіне адзначаўся 1 чэрвеня. Часопіс адкрываецца цікавымі лічбамі і фактамі. Так, у 1992 годзе ў рэспубліцы працавала 4988 дашкольных устаноў. У іх налічвалася 569 тысяч месц і выхоўвалася 485 тысяч дзяцей. 3038 дашкольных устаноў (62% ад агульнай колькасці) вядуць работу на беларускай мове, 1298 (26%) — на беларускай і рускай і 571 (12%) — на рускай мове. На 1 студзеня 1993 года ў дашкольных установах працавала 58,4 тысячы педагагічных работнікаў, у тым ліку 4,9 тысячы загадчыкаў, 47 тысяч выхавацеляў, 4,8 тысячы музычных кіраўнікоў. Сярод загадчыкаў з вышэйшай адукацыяй 3 тысячы чалавек (60%), сярод выхавацеляў — 13,6 тысячы чалавек (29%).

Пра новыя формы дашкольных устаноў распавядае ў артыкуле «Вёска — радасць, матуля, цуд мой» дырэктар Дулебскага дзіцячага дома-школы-дзіцячага сада Бярэзінскага раёна Мікалай Грудзінскі.

У рубрыцы «На шляху нацыянальнага адраджэння» змешчаны працяг артыкула Г. Штэйнмана і В. Саннікавай «Дзіцячы сад: учора, сёння... А заўтра?». Уладзімір Арлоў — пастаянны аўтар часопіса, які прапануе чытачам апавяданні па гісторыі Беларусі. На гэты раз змешчаны твор пісьменніка «Гетман Астрожскі і перамога пад Воршай». «Адысея Маладога Дзядка» — так называецца нарыс Яраслава Пархуты, у якім распавядаецца пра паэта Сяргея Новіка-Пяюна. У рубрыцы «Методыка. Вопыт. Планаванне» Зося Кустава прапануе «Азбукоўнік і лічылку», а Вячаслаў Казубоўскі ў рубрыцы «Наша Бацькаўшчына» знаёміць чытачоў з сімволікай ручніка. Для тых, хто хоча добра адсвяткаваць Купалле, Кацярына Варанко падрыхтавала невялікую інсцэніроўку, у якой выкарыстала народныя традыцыі і песні.

У верасні — кастрычніку 1992 года на Беларусі гасцяваў вядомы беларускі пісьменнік, які стала жыве ў ЗША, Масей Сяднёў. Увазе чытачоў «Пралескі» прапануецца гутарка з ім. Зацікавяць матэрыялы, якія змешчаны ў рубрыках «Экалагічныя гульні», «Да вытокаў», «Дзеці — дзецям», «Дамашні доктар», «Астралогія і дзеці», «Гасцёўня «Пралескі» і іншыя. З літаратурных твораў друкуюцца вершы Масея Сяднёва, Тадзіяны Кляшторнай, Серафімы Беставай, Алены Снегінай. Часопіс багата ілюстраваны. Сярод малюнкаў — акварэлі мастачкі Алены Лось, пра якую ў «Пралесцы» Людміла Забалоцкая распавядае ў нарысе «Як калінавая гронка».

Н. К.

# «Належаў да піянераў беларускага руху»

*Заканчэнне. Пачатак на с. 4.*

**Напэўна, беларусам не трэба было б тады вандраваць па нявольных і вольных краінах свету.**

**А Будзька вызначаўся надзвычайнымі рысамі характару. Быў сціплым і надзвычай мала вымагаў для сябе: не гнаўся за раскошным жыццём. Але якая веліч духу і сэрца была ў гэтага чалавека! Якая адзыўчывасць на чужую бяду, на крыўду людскую! Чужое няшчасце ён перажываў, як сваё. Яго жаданнем было, каб кожнаму было добра, каб кожны быў шчаслівы. Ён цешыўся чужым шчасцем, як сваім, і ніхто хіба ў яго не заўважыў нават найменшай ноткі зайздрасці або помсты. Колькі людзей прыпомняць ягоную помач, ахвярнасць, дабрадзейнасць ды адзыўчывасць на чужую бяду! І тыя, якіх ён, наражаючы сябе на небяспеку, вызваліў з арыштаў у часе розных палітычных зменаў, і тыя, што былі ў бядзе і дзякуючы яму атрымалі працу, і тыя, што дзякуючы яму дабіліся асветы, і тыя, што з яго парадай знайшлі жыццёвы шлях і яшчэ шмат якія, што бачылі ў яго асобе прыяцеля, павадыра, дарадніка і лекара на розныя беды. Ягоны патрыятызм, адданасць беларускай справе базаваліся на глыбокай гуманнасці, на адчуванні тых бедаў і няшчасцяў, якія абступілі беларускі народ, на адчуванні крыўдаў і здзекаў, якімі кармілі беларусаў чужыя ўлады. Згодна са сваёй добрай, гуманнай натурай ён хацеў, каб беларусам было добра, каб яны былі шчаслівымі. Дзеля гэтага трэба было беларускаму народу адраджацца ды здабываць сваю культуру і палітычную незалежнасць.**

**Нікому, хто знаў А. Будзьку, нават у галаву не прыйшло, што ён мог схлусіць ці ашукаць каго. У адносінах да людзей ён быў заўсёды ветлівым, вытрыманым, лаяльным і выразумелым, а ў адносінах да справы — абавязковым, акуратным, адказным, працавітым. Беларуская грамадская справа была ў яго на першым месцы. І ніхто хіба не ўмеў так пагадзіць асабістае жыццё з грамадскай дзейнасцю.**

*Чыталі?*

# Вераснёўскі «Першацвет»

**Не паспеў уладкавацца на палічках шапікаў «Саюздруку» ды разляцецца па паштовых скрынях тыраж восьмага нумара «Першацвету», як услед за ім паспяшаў у свет дзевяты. У ім, як і ў папярэдніх нумарах, шчыра гавораць пра свае пачуцці, перадаюць патаемныя думкі юныя паэты і празаікі. Адкрываецца дзевятая кніжка часопіса прадмоўкай Тані Кедрык (друкуецца ўпершыню) да ўласных вершаў. Яна піша: «Уяўляеце, нас у класе толькі двое: я і Зоська. Але і мы не лыкам шытыя: я час ад часу пішу вершы, а Зоська бярэ ў рукі гітару, падбірае адпаведную мелодыю — і вось яны ўжо, мае вершы, гучаць на нашых вечарынах...» Цікава? Так і хочацца пазнаёміцца бліжэй з гэтай дзяўчынай! Упершыню друкуюцца ў часопісе Аляксей Шэін з апавяданнем «Ноч...», Зміцер Яскевіч, Вольга Чупрына, Арцём Ласоўскі з вершамі, Галіна Раманавец з лірычнымі абразкамі ў прозе. Чытачоў чакаюць вершы Людмілы Багданец (яна ўжо друкавалася ў «Вясёлцы» і «Нашым слове») і Вольгі Бацян, якая ўпершыню была прадстаўлена чытачам «Першацвету» апавяданнем. Зацікавяць новыя творы маладога празаіка Вітаўта Чаропкі. «Першацветаўская» «Гасцёўня» знаёміць з вершамі Алега Лойкі і апавяданнем Івана Канановіча «Дзверы». У рубрыцы «Повязь» — творы паэта Кліма Грыневіча і нататкі пра яго Яўхіма Гаварушкі. Ала Петрушкевіч, Эдуард Акулін і Наталля Якавенка ў раздзеле «Крытыка» рэцэнзуюць навінкі літаратуры, а Анатоль Крэйдзіч у «Жароўні» парадырue вершы Л. Дранько-Майсюка, А. Давыдава і А. Пашкевіча.**

**Юлія АЛЕСЬНІНА.**

## Нашы вытокі



На здымку: спадар Аляксандр Грэсь захоплены працуе з саломкай і лазой. Гэта майстэрства ён пераняў у бацькі і дзеда.
Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.




*Д. Джарвіс:*

*Ангіна*

*(танзіліт)*

Найбольш распаўсюджаны ў народнай медыцыне сродак лячэння ангіны — паласканне горла растворам яблычнага воцату (1 чайная лыжачка на 1 шклянку кіпячонай вады). Паласканне рэкамендуецца праз кожную гадзіну, прытым трэба набіраць поўны рот раствору, паласкаць горла і глытаць раствор. Народная медыцына лічыць, што пры глытанні раствор абмывае заднюю сценку горла, да якой у працэсе паласкання ён не даходзіць.

Пасля таго як боль у горле крыху аціхне, паласкаць з большым інтэрвалам — праз кожныя дзве гадзіны. Такім чынам стафілакокавую ангіну можна вылечыць за 24 гадзіны. Налёт на міндалінах знікае праз 12 гадзін.

*АФАРЫЗМЫ*

У. БУЛАТАВІЧ ВІБ

## Крок назад

Дзяржава пайшла далей: апаратам можа яго і паявілічваць.

Калі сялянам не забараняюць трымаць чорных авечак, чаго інтэлектуалам забараняюць чорныя думкі.

Маладыя людзі заўсёды маюць вялікія шансы... састарэць.

Не пажадай, каб у суседа здохла карова. Тады твая застанецца адна і будзе намнога болей кідацца ў вочы.

Чалавеканенавіснік штоночы сніць малюсенькага Ахілеса з вялізнаю пятою.

— Ці ж не цяжка гэтулькі гаварыць?
— А дзе вы бачылі мазалі на языку.

— А ці ж ёсць сэнс біцца галавою аб сцяну?
— Ёсць, калі знойдзеце сцяну, больш патрэбную за галаву.

У здаровым яблыку і чарвяк здаровы.

Нішто чужое мне не чужое.

Нікому не паверу, што ён добра плавае, калі не ўтапіў хоць двух настаўнікаў.

Людзі, ці бачылі вы хоць раз, каб конь у скачках падставіў нагу другому каню?

Дзе-хто і ў паводках бачыць шанцы стаць адміралам.

Свет дзеліцца на людзей, якія думаюць, і на людзей, якія маюць думку.

Можаце ўявіць сабе, як бывае словам, калі яны абернуцца, а прамоўцы за імі няма.

Не радуйцеся мядзведзю каля чужой хаты. Мядзведзь блукае.

У жыцці ёсць былыя людзі, але няма былых нягоднікаў.

Палітыка — рашчына, а народ — мука.
Як хлеб удаецца, усе хваляць рашчыну.
А як не ўдаецца, у муцэ бачаць прычыну.

Калі кожны момант гістарычны, нашто нам гісторыя?! Дастаткова календара.

Спачатку ты чалавек у цені, потым — чалавек з ценем, нарэшце — цень ад чалавека.

Гады ў нас альбо дажджлівыя, альбо засушлівыя, ды ўсе гістарычныя.

За свае грахі мы спраўдзяемся папам, папы багам, багі аблокам. Аблокі плачуць.

— Нам патрэбны жалезныя людзі!
— Так-так! — аж захлёбваецца ад шчасця іржа.

Найлягчэй запускаць руку ў кішэню рабочага, У таго рукі занятыя.

Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.

*Пачутае ў Лявона*

## У Адэсе апавядаюць:

* * *

Сара гаворыць Ісаку: — Прыходзь да мяне сёння вечарам, мой муж едзе ў Кіеў.
— А як я даведаюся, што мужа ўжо няма ў кватэры? — пытаецца Ісак.
— А я капеечку ў акно выкіну. Яна зазвініць, ты і прыходзь.
Прыходзіць Ісак вечарам пад акно да Сары. Сара выкінула ў акно капеечку.
Праз 10 хвілін яна выходзіць на балкон і крычыць у цемру:
— Ісак, ты тут?
— Тут.
— А што ж ты там робіш?
— Грошы шукаю!
— Вось яўрэйская натура, — гаворыць Сара, уздыхаючы,— я капеечку даўно на нітцы падняла...

З адэскага антыкварy сабраў і пераклаў на беларускую мову Пятрусь Капчык.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**20 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА**
13.30. Навіны.
16.10. Летніца. Новая праграма фальклор-тэатра «Госьціца».
17.40. Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.

**21 КАСТРЫЧНІКА. ЧАЦВЕР**
10.20. Памяці Паўлюка Багрыма. Свята на радзіме паэта ў Крашыне.
16.30. Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. X клас. Культура Беларусі на пачатку XX стагоддзя.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
20.20. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
22.40. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».

**22 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА**
12.45. Роднае слова. Тэлечасопіс.
13.15. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
17.40. Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.20. Палітычны калейдаскоп.
21.00. Панарама.

**23 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА**
13.05. Духоўная спадчына. Культурная і моўная традыцыі каталіцтва на Беларусі.
14.40. «Скарб-93». Фестываль талентаў.
16.40. Вобраз. Літаратурны часопіс.
21.00. Панарама.
23.05. НІКа.

**24 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ**
12.20. Карагод. Музычна-забаўляльная праграма.
17.55. Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
20.00. Панарама.

*Пародыі*

*Георгій ЮРЧАНКА*

## Спробы ў найноўшай паэзіі

з бяроз лісцінкі
ападаюць долу
на ручку з сумам
гляну дзеяслоў

ляцелі думкі
стоенаю цішай
ля самай сцежкі
вырас мухамор

лягушкі палка
шэпчуцца ў балоце
хамут ралейны
войкнуў і прыціх

сеў камар
на сонную бярозу
у смятане карпы
смаката

упаў аловак
хочацца паснедаць
мільгаюць пацалункі
за акном

крутнула ўправа
пройдзеная сцежка
абдымкаў прагне
левая нага

дуга клапоціць
па гужах напятых
хачу напіцца
з рэшата нагбом

свярбяць каленкі
чэшацца за вухам
з падпечка цягне кот
разяву мыш

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Зак. 293.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.
Наклад 7245 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 18.10.1993 г. у 15 гадзін.